НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.

№21 (150) САКАВІК 2013 ГОДА

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ПРА ПЕРАЛОМЫ І СОЛЬ ПАД НАГАМІ

**Шумілінцы скардзяцца на слізкія тратуары. Не заўсёды па многіх тратуарах райцэнтра можна прайсці без рызыкі. Сітуацыя ўскладняецца тым, што для расчысткі і пасыпкі тратуараў у ЖКГ няма спецыяльнай тэхнікі і сумесей, якія б адпавядалі экалагічным патрабаванням.**

Прыйшла вясна каляндарная вясна, і людзі радуюцца сонечным дням з адлігамі. Толькі калі адным гэта ў радасць, іншым – лішні цяжар і нагрузка. Дворнікам, напрыклад, якім трэба з ранку расчысціць тратуары і пасыпаць іх пяском. Але зіма і не думае адступаць. Няўстойлівае надвор'е – маразы, якія змяняюцца адлігай і наадварот, –не спрыяе рабоце камунальнікаў.

Дарожныя службы, аднак не могуць ахапіць усю тэрыторыю горпасёлка, таму на абочынах дарог вырасלі гурбы заледзянелага снегу, а нячышчаныя тратуары пакрыліся слізкімі наледзямі. Пешаходы рухаюцца ў экстрэмальных умовах.Рызыкуючы, некаторыя людзі у пошуках устойлівага месца пад нагамі выходзяць на праезжую частку з актыўным аўтамабільным рухам. Нярэдка такія "перабежкі" заканчваюцца траўмамі. Паводле даных з раённага шпіталю, за медыцынскай дапамогай звярнулася каля двух дзесяткаў чалавек. Пры гэтым чатыры чалавекі паслізнуліся на слізкай дарозе і атрымалі пераломы, пяцёра – удары рознай ступені, выцялі рукі, ногі ці галаву.

Прынамсі, падзенні на слізкім тратуары або бруку – найбольш частая прычына галалёдных траўм. Каб пазбегнуць непрыемных сітуацый, спецыялісты рэкамендуюць перамяшчацца павольна, як бы слізгаючы. Немалаважны момант – выбар абутку. Тут трэба аддаць перавагу абутку на плоскай падэшве. Аўтамабілістам неабходна перайсці на больш павольны тып ваджэння.

Яшчэ трэцяга студзеня бягучага года на рабочай нарадзе райвыканкама было ўзнята праблема бяспекі дарожнага руху, узмацнення кантролю за ўтрыманнем вулічна-дарожнай сеткі. У сувязі з няўстойлівым надвор'ем і галаледзіцай асаблівыя патрабаванні тычыліся дарожнай і камунальнай службаў па падсыпцы дарог і тратуараў, ачысткі перакрыжаванняў ад снегу. Як паказала практыка, да належнага парадку на вуліцах і дарогах раёна яшчэ далёка. На сённяшні дзень жыллёва-камунальнай гаспадаркай для апрацоўкі вуліц і тратуараў раёна было зрасходавана больш як 240 тон пясчана-солевай сумесі з мінулагодніх запасаў. Аднак, асноўная праблема не ў яе колькасці, а якасці выкарыстання. Спецыяльнай тэхнікі для расчысткі і пасыпкі тратуараў у камунальнікаў няма. Работы выконваюцца ўручную – многія тратуары вузкія, трактары не праходзяць. І далёка не ўсе дворнікі кожны дзень спраўна бяруцца за працу, а 8 рабочых (у асноўным жанчыны) брыгады камунгасу не паспяваюць расчышчаць вуліцы. Праўда і тое, што нярэдка патрабаванні аб поўнай уборцы вуліц у зімні сезон нерэальныя. У прыватных размовах рабочыя кажуць, што ачышчаны тратуар на наступны дзень зноў засыпле снегам.

Дарэчы, якімі сумесямі зараз пасыпаюцца шумілінскія дарогі і тратуары? І наколькі яны бяспечныя для здароўя і экалогіі? У нас прымяняюцца сёння, у асноўным два рэагенты. Гэта звычайная пясчана-саляная (сумесь пяску і тэхнічнай солі, у асноўным калійнай), а таксама супрацьгалалёдная сумесь – тэхнічны хлорысты калій). І тая, і іншая сумесь мае свае дадатныя якасці з пункту гледжання папярэджання траўматызму і слізкасці. Але таксама адмоўныя з пункту гледжання ўздзеяння на навакольнае асяроддзе і тэхніку. Гэтая соль раз'ядае кузавы машын, абутак і сушыць дрэвы ўздоўж дарог.

Паводле звестак на 8 лютага 2013 дзяжурна-дыспетчарскай службы «Белаўтадар», з пачатку зімовага перыяду на дарогі краіны высыпалі 452 тысячы тон пясчана-солевай сумесі і каля 62 тысяч тон чыстай солі. А гэта ні многа, ні мала, але па 50 кг на кожнага беларуса.

**Аляксандр Шчамлёў.**

ЭКАНОМІКА

## ПРАГРАМУ ВЫКАНАЛІ, АЛЕ СПРАЦАВАЛІ СА СТРАТАМІ

**Сёлета работнікі Шумілінскага ПМС адчуваюць няўпэўненасць у сваім заўтрашнім дні. І хаця яны не здалі ў мінулым годзе вядучых паказыкаў, фінансавы стан прадпрыемства істотна пагоршыўся. Калі кіраўніцтва не асвоіць новыя віды дзейнасці, меліяратары таксама займуць трывалае месца сярод банкрутаў раёна.**

Аналізуючы работу прадпрыемства на справаздачным сходзе, дырэктар ПМС Васіль Цянькоў адзначыў, што працоўны калектыў справіўся з мерапрыемствамі ў рамках дзяржаўнай праграмы. Да прыкладу, у эксплуатацыю было ўведзена 402 гектары рэканструяваных зямель.

Аднак асноўныя паказчыкі работы па-ранейшаму невысокія, а страты выраслі да аднаго мільярда рублёў. Дырэктар быў вымушаны прызнаць, што на прадукцыйнасць працы паўплывала парушэнне тэхналогій. Далёка не апошні фактар, які негатыўна адбіўся на рабоце калектыву – гэта нізкая працоўная дысцыпліна. Так, некаторыя работнікі маюць прагулы, а шэсць чалавек увогуле былі звольнены за п'янку на працоўным месцы. Зараз тут не прыжывецца гультай або аматар спіртнога.

Раней, у савецкія часы, меліяратараў нярэдка называлі першапраходцамі, бо яны адваёўвалі ў дзікай прыроды забалочаныя, парослыя хмызняком землі, якія і рабілі прыгоднымі для вырошчвання сельгаскультур. Цяпер звычайная работа меліяратараў пад зямлёй, якая нябачна людзям, засталася ў мінулым. На сённяшні дзень першапачатковай задачай з'яўляецца выкананне дзяржаўных праграм "Захаванне і выкарыстанне меліяраваных земляў на 2011-2015 гады". На выкананне гэтых мерапрыемстваў дзяржава выдзяляе грашовыя сродкі. Аднак дзяржаўныя сродкі на меліярацыйную дзейнасць заўсёды абмежаваныя, яны нават не дапамагаюць прадпрыемству ўтрымацца на плаву. Каб палепшыць сваё фінансава-эканамічнае становішча, работнікі прадпрыемства павінны выконваць нехарактэрныя віды работ. Акрамя прамыўкі калектараў і абкошвання каналаў, шумілінскія меліяратары вядуць работы па планіроўцы дальных залаў на фермах, займаюцца вертыкальнай планіроўкай для будаўніцтва новых фермаў.

Плацёжаздольных заказчыкаў у раёне, аднак, знайсці не ўдаецца. На некаторых сельгаспрадпрыемствах завіслі даўгі яшчэ з 2010 года. Такая неразваротлівасць адбіваецца і на зарплаце. Каб атрымліваць годны заробак, арганізацыі трэба аказваць паслуг не меней за 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў штомесяц. Дзе выйсце? Абласны начальнік з аддзела меліярацыі Уладзімір Карпаў прапанаваў развіваць ідэю будаўнічых паслуг. На яго думку, можна заняцца рамонтам дарог, аказваць транспартныя паслугі, іншыя віды работ трэба шукаць самім. Вось толькі хапіла б нашым меліяратарам умення і тэхнікі.

**Я. Вайтовіч**

ДУХОЎНАСЦЬ

## НОВЫ ХРАМ УЗНЯЎСЯ НАД НАВАКОЛЛЕМ ОБАЛІ

**У гарадскім пасёлку Обаль ідуць будаўнічыя работы па адраджэнні аднаго з культавых будынкаў – Свята-Ануфрыеўскай царквы. Завершаны этап узвядзення сцен, накрыты дах, прывезены купал на званіцу. Храм будуецца з дапамогай спонсараў, асноўныя сярод якіх – кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў.**

Можна не быць глыбокім вернікам, але калі бачыш занядбаныя або разбураныя храмы, то сэрца заходзіцца ад болю і пачынае шчаміць. Калі ёсць у душы куточак, дзе жывуць памяць, надзея, вера, любоў, то нельга застацца абыякавым да гістарычнай спадчыны свайго краю.

Шмат хто з абывацеляў спытае: навошта будуюцца храмы, калі Бог ёсць у душы і маліцца яму можна паўсюдна? Пэўна яны маюць рацыю, але менавіта тут, у Божым доме, пад высокімі купаламі велічнага храма, людзям больш утульна адысціад штодзённай мітусні, паглыбіцца ў малітву і далучыцца да Хрыста. Нагадаем, што вялікаая заслуга ў адраджэнні Свята-Ануфрыеўскага храма належыць галоўнаму ініцыятару гэтай справы святару Уладзіміру Пучынскаму, які пачаў сваю хрысціянскую місію ў 2005 годзе. Дзякуючы ініцыятыве айца-заснавальніка Уладзіміра ў 2008 годзе заклалі падмурак пад новы храм.

Сёння ўжо не засталося людзей, якія памяталі пра гісторыю обальскіх цэркваў. А было ў мястэчку тры храмы, ад прыгажосці і велічы якіх не засталося нічога. Нават муры не выстаялі – усё знесці бальшавікі падчас войнаў і рэвалюцый. Рэлігійнае жыццё насельнікаў обальскага наваколля поўнасцю знішчылі. Некалі стаяла каля вёскі Зуі Петрапаўлаўская царква, паміж Обаллю і Грудзінавам узвышался Ігуменская Свята-Духаўская, а за чыгуначным пераездам была Свята-Ануфрыеўская. Ніхто з месцічаў ніколі не думаў, што тут нейкім чынам ускалыхнецца памяць па даўніну, нейкі помнік іх дачакаецца свайго адраджэння. І, напэўна, гэтага б не адбылося, каб не энтузіяст-падзвіжнік архіепіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый, які добра ведаў, што ў гарадскім пасёлку Обаль няма царквы.І ўзвесці іх дапамог прыхільнік і падзвіжнік святары айцу Уладзіміру Пучынскаму.

І вось цяпер пакрысе адраджаюць новы храм, як кажуць – усёй талакой. Велічнае збудаванне ў асноўным узведзена, напярэдзе – унутраныя работы, устаноўка купалаў, дзвярэй і вокнаў. Малы купал ужо прывезлі – ён залацістага колеру, якім зіхацць пакрыццё з нітрыда тытану. У бліжэйшым будучым плануюць набыць для храма пяць званоў, самы вялікі будзе вагой каля 200 кілаграмаў.

Будаўніцтва новай царквы адлічвае пяты год сваёй навейшай гісторыі. Увесь час спонсарскую дапамогу аказвалі: Обальскі керамічны завод, які ахвяраваў цэглу, піламатэрыялы прадаставіў Шумілінскі лясгас, пасільную падтрымку аказвалі іншыя арганізацыі раёна і мясцовыя прыхаджане. Асаблівую удзячнасць айцец Уладзімір выказвае ўраджэнцу Обалі, дырэктару Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода Анатолю Купрыянаву.

Будаўніцтва прадаўжаецца агульнымі намаганнямі святароў і прыхаджан – іх фізічнай працай, матэрыяльнымі ахвяраваннямі і безумоўна, малітвамі. Пасільны ўдзел у адраджэнні Свята-Ануфрыеўскага храма дасць магчымасць кожнаму жыхару нашага раёна рэалізаваць сваю грамадзянскую пазіцыю, унесці свой уклад у захаванне гістарычнага мінулага Шумілінішчыны.

**Алесь Прыбярэжны.**

СІЛАВЫЯ СТРУКТУРЫ

## ШУМІЛІНЦЫ НАЙМЕНЕЙ ДАВЯРАЮЦЬ МІЛІЦЫІ

**У Віцебскай абласной управе ўнутраных спраў прааналізавалі вынікі грамадскага апытання. Згодна з афіцыйнымі звесткамі, толькі трацина насельніцтва Віцебскай вобласці цалкам давярае міліцыі. Ніжэйшы паказчык – у Шумілінскім раёне, дзе міліцыі давяраюць толькі 30,7% апытаных жыхароў.**

Паводле інфармацыі, апублікаванай на сайце УУС Віцебскага аблвыканкама, найменшая ступень даверу міліцыі па выніках другога паўгоддзя зафіксавана ў 5 раёнах - Браслаўскім, Гарадоцкім, Расонскім, Ушацкім і Чашніцкім. У цэлым па вобласці паказчык даверу ўпаў з 35,5% да 34,9%. Больш дакладна, у Верхнядзвінскім раёне міліцыя страціла давер да насельніцтва на 3%, у Расонскім – 2,8%, у Пастаўскім –2,4%, у Лепельскім –2%. Узровень даверу зменшыўся ў 17 раёнах з 21 раёнах Віцебскай вобласці і самім абласным цэнтры. Аднак максімальная лічба ў асобных раёнах не перавышае 41% ( Сенненскі раён –40,9%, Лепельскі – 40,4%).

Разам з гэтым нядаўні маніторынг выявіў непрыемны факт. З аналізу па Шумілінскаму раёну вынікае, што па выніках 2011 года давер грамадзян складаў 28,7%, па выніках першага паўгоддзя гэты ўзровень даверу крыху павялічыўся да 29,8%. Аднак нягледзячы на тое, што у другім паўгоддзі ўзровень поўнага даверу жыхароў раёна да міліцыі склаў 30,7%, Шумілінщчына ўсё роўна па-ранейшаму займае апошняе месца сярод іншых раёнаў вобласці.

Дарэчы, у цэлым па краіне ступень поўнага даверу насельніцтва органам унутраных спраў за мінулы год знізілася на 0,5% і складае 34,8%. У першым паўгоддзі 2012 года было 35,3%. Між іншым, Беларусь застаецца лідэрам па колькасці міліцыянтаў на душу насельніцтва. Так, паводле дадзеных ААН у свеце сярэдняя колькасць паліцыянтаў на 100 тысяч чалавек каля 300, у той час як у Беларусі аналагічны паказчык складае 1442 міліцыянта на 100 тысяч жыхароў краіны.

**Алесь Прыбярэжны.**

## Аб'ява

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.

*********

Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.

*********

Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».

*********

Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ВЫПУСКНІКОЎ ЗАКЛІКАЛІ ВЯРТАЦЦА Ў РАЁН

**Прадстаўнікі раённай улады на чале са старшынёй райвыканкама Уладзімірам Куранным завіталіў Шумілінскую сярэднюю школу №2. Чыноўнікі расказалі школьнікам аб дасягненнях раёна і агітавалі за вяртанне на малую радзіму пасля набыцця спецыяльнасці.**

У рамках гэтак званага "Дня інфармавання" мясцовае начальства наведвае і школы раёна. Не сакрэт, што пераважная большасць выпускнікоў асаблівага жадання заставацца ў рэгіёнах не праяўляе. Асноўны кантынгент жыхароў нашага раёна – людзі пенсійнага і перадпенсійнага ўзросту. Адкуль тады ўзяць кадры для развіцця эканомікі? Тым больш, што перадусім, калі старшыня райвыканкама прымаў раён, ён праз тры гады абяцаў вывесці Шуміліншчыну ў эканамічныя лідэры вобласці.

Сказаць па праўдзе, задзейнічаць адміністрацыйны рэсурс для замацавання кадраў у малых гарадках уладам ніхто не замінае. Таму актыўная праца пачынаецца з гэтак званай прафарыентацыі яшчэ сярод старшакласнікаў. Іх мэта не толькі дапамагчы моладзі вызначыцца з будучай прафесіяй, але арыентаваць выпускнікоў на тыя віды спецыяльнасцей, якія найбольш запатрабаваны ў раёне сельскагаспадарчай накіраванасці.

Таму перш чым пачаць размову, кіраўнік раёна Уладзімір Куранны праінфармаваў школьнікаў аб складанай дэмаграфічнай сітуацыі. З даклада вынікае, што сацыяльна-эканамічнае становішча раёна ў параўнанні з мінулымі гадамі не палепшылася. Каб вывесці прадпрыемствы з крызісу, стварыць новыя вытворчасці, патрэбны вялізныя выдаткі. Менавіта таму раён пакідаюць сотні найбольш актыўных людзей. Факты – упартая рэч. Зразумела, што ў 21 стагоддзі ніхто не жадае працаваць на старых фермах з высокай доляй ручной працы. А такіх у раёне каля трыццаці. Для таго, каб правесці мадэрнізацыю, атрымаць прыбытак, трэба павысіць прадукцыйнасць працы амаль удвая!

Бадай што, далейшыя выступленні чыноўнікаў прапагандысцкай групы нагадвалі бюракратычныя справаздачы ў старым стылі савецкіх часоў. Нібыта яны не заўважалі, што перад імі аўдыторыя з вучняў, а не начальства з больш высокай інстанцыі. Па-сутнасці, ніякай размовы або дыялогу са старшакласнікамі не атрымалася. Падрастаючае пакаленне, што знаходзілася ў актавым зале, са свайго боку ніякай актыўнасці не праяўляла. Якзаўжды, прайшло дзяжурнае мерапрыемства і наўрад ці гэта інфармацыя для старшакласнікаў была карыснай. На заканчэнне юрысты і медыкі прачыталі лекцыі аб прыстойных паводзінах і здароваму ладу жыцця, якое павінны весці маладзёны, каб не трапіць за краты ці заразіцца ВІЧ-інфекцыяй. Дарэчы, у нашым раёне было зарэгістравана пяцёра ВІЧ-інфіцыраваных хворых, двое з якіх памерлі.

Штогод выпускнікі пакідаюць сцены школ нашага раёна, становяцца студэнтамі. Колькасць паступаючых у вышэйшыя і сярэднеспецыяльныя навучальныя ўстановы не змяншаецца. Але якая б ні была статыстыка паступаючых, выпускнікі па-ранейшаму на раён не спяшаюцца. Па ўсяму відаць, Шуміліншчына ўвогуле магла б застацца без маладога папаўнення, каб не прымусовае размеркаванне.

**Алесь Шумскі.**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

# МІЛІЦЫЯ СУПРАЦЬ САМАГОНШЧЫКАЎ

**У раёне не спыняецца самагонаварэнне. Падчас рэйдаў супрацоўнікі міліцыі складаюць адміністрацыйныя пратаколы за выраб самагонкі, брагі і захоўванне апаратаў для падпольнай вытворчасці алкаголю. Усяго за 2012год супрацоўнікі Шумілінскага РАУС склалі 24 адміністрацыйныя пратаколы за гандаль алкагольнай прадукцыяй, канфіскавалі 42,1 літра фальсіфікаваных спіртных напояў і 6060 літраў самагоннай брагі.**

Злоўжыванне спіртным паніжае працяглаcць жыцця прыкладна на 20 гадоў. Асобна ў якасці вынікаў п'янства можна вылучыць траўмы і злачынствы, учыненыя нецвярозымі грамадзянамі, а таксама распад сем'яў, страта работы, паніжэнне ўзроўню жыцця. Спіртаўтрымліваючая прадукцыя, выраблена кустарным спосабам, прасцей кажучы самагон, толькі пагаршае гэтыя вынікі.

Чаму шумілінцы займаюцца вырабам і сбытам самагону? Гэта залежыць ад ладу жыцця, заняткаў жыхароў населеных пунктаў, работы прадстаўнікоў мясцовага кіравання, а таксама ўчастковага інспектара міліцыі. Вырабам і збытам займаюцца як асобы пенсіённага ўзросту, так і сярэдняга. Здараецца, што ў асноўным ставяць вытворчасць самагону на паток жанчыны, якія самі і жонкі, і маці, і бабулі. Прычым яны не задумваюцца, што, напрыклад, сусед, выпіўшы выгнанай ёю гарэлкі, пойдзе дадому тэрарызаваць жонку, маленькіх дзяцей альбо састарэлых бацькоў. Або п'яная маці-зязюля забудзецца пакарміць сваіх дзяцей.

Алкагольны бізнэс - высокадаходны, бо, на вялікі жаль, у нашым грамадстве існуе ўстойлівы попыт на алкагольную прадукцыю. Вядома ж, усе самагоншчыкі спасылаюцца на тое, што гоняць толькі для сябе. Але ж факты з жыцця, у тым ліку і выпадкі гібелі нашых грамадзян ад атручвання самагонкай, сведчаць аб іншым. Так, ад атручвання алкагольнымі сурагатамі ў нашым раёне ў мінулым годзе памерлі восем чалавек.

Трэба заўважыць, што пад тэрмінам "самагон" разумеецца алкагольны напой з аб'ёмнай доляй этылавага спірту 28 і больш працэнтаў, выраблены фізічнымі асобамі шляхам зброджвання сыравіны і перагонкі. Згодна з заканадаўствам за выраб моцных алкагольных напіткаў, паўфабрыкатаў, а таксама за захоўванне самагонных апаратаў, пагражае штраф да пяці базавых велічынь з канфіскацыяй названых напіткаў, паўфабрыкатаў і апаратаў. За тыя ж дзеянні, здзейсненыя паўторна на працягу аднаго года, прадугледжаны штраф ад пяці да трыццаці базавых велічынь з канфіскацыяй напіткаў, паўфабрыкатаў і апаратаў.

Барацьба з самагонаварэннем будзе працягвацца. Міліцыя заклікае ўсіх шумілінцаў не быць абыякавымі да праблемы п'янства, імкнуцца дапамагчы праваахоўнікам у барацьбе з гэтым сацыяльным злом.

**У. Амбросаў.**

ПРАВАПАРАДАК

# СУПРАЦОЎНІКІ АХОВЫ ЗАПРАСІЛІ Ў ГОСЦІ ШКОЛЬНІКАЎ

**Днямі ў Шумілінскім аддзяленні Дэпартамента аховы адбыўся "Дзень адкрытых дзвярэй. У госці да супрацоўнікаў аховы завіталі вучні шостых і адзінаццатых класаў Шумілінскай сярэдняй школы № 1. Для дзяцей ладзілі паказальнае выступленне кінолага з сабакам.**

Нягледзячы на холад у адміністрацыйным будынку, памяшканне Дэпартамента аховы напоўнілася звонкімі галасамі юных шумілінцаў. На пачатку гасцей мерапрыемства пазнаёмілі аб развіцці і станаўленні службы, далейшых задачах, якія павіны выканаць службоўцы аддзела. Асаблівую цікаўнасць у падлеткаў выклікала паказальнае выступленне. Пасля таго, як спрацавала ахоўная сігналізацыя, група затрымання аператыўна прыбыла на месца здарэння. Супрацоўнікі аховы злавілі і абясшкодзілі выдуманага злачынцу з дапамогай службова-вышуковага сабакі. Затым кінолаг прадэманстраваў прыёмы дрэсіроўкі сабакі. Юныя госці сталі непасрэднымі сведкамі падзей, з якімі работнікі аховы сутыкаюцца ў сваёй рабоце. Некаторыя хлопцы, знаходзячыся пад ўражаннямі ад убачанага, нават казалі, што пойдуць служыць у ахову.

**Алесь Прыбярэжны.**

БЯСПЕКА Ў ГАСПАДАРКАХ

# НОРМЫ ПАЖАРНАЙ БЯСПЕКІ ПАРУШАЮЦЬ КІРАЎНІКІ

**У адпаведнасці с каардынацыйным планам кантрольнай дзейнасці аддзел па надзвычайных сітуацыях правёў праверкі стану пажарнай бяспекі на шэрагу прадпрыемстваў і арганізацый Шуміліншчыны. Як высветлілася, парушэнні правіл пажарнай бяспекі допусцілі кіраўнікі і службовыя асобы, якія дакладна не ведаюць сваіх абавязкаў і дзеянняў. Вінаватыя прыцягнуты да адказнасці.**

З-за таго, што кіраўнікамі арганізацый своечасова не ліквідуюцца парушэнні і недахопы, не выконваюцца патрабаванні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі, ігнаруюцца прадпісанні, на прадпрыемствах нярэдка узнікаюць пажары і надзвычайныя здарэнні. Полымя паглынае будынкі, падвяргаюцца небяспецы жыцці работнікаў. У сваю чаргу, у многіх кіраўнікоў склалася памылковае меркаванне аб тым, што забеспячэнне пажарнай бяспекі – гэта справа і клопат кантралюючых органаў. Прычым кіраўнікі арганізацый разводзяць рукамі і часта ссылаюцца на недахоп фінансаў. Аднак гэта не так, такі абавязак ускладзены менавіта на кіраўніцтва і службовых асоб. Найбольш характэрныя парушэнні у раёне былі выяўлены падчас рэйду. У тым ліку незабяспечанасць пярвічнымі сродкамі пажаратушэння, няспраўнасць электраабсталявання і пячнога ацяплення. У поле зроку камісіі трапілі таксама неадпаведнасць супрацьпажарнага водазабеспячэння патрабаванням нормаў і правілаў, неналежнае ўтрыманне супрацьпажарнага інвентару, адсутнасць біявогнеахоўнай апрацоўкі згараемых будаўнічых канструкцый. Усяго да за люты да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 4 кіраўнікі суб'ектаў гаспадарання, 17 службовых і дзве юрыдычныя асобы. Усе выяўленыя недахопы падчас правядзення праверак, парушэнні нормаў і правіл пажарнай бяспекі знайшлі сваё адлюстраванне ў актах і пацягнулі ўжыванне адміністрацыйных санкцый у стаўленні вінаватых службовых асоб, якія павінны зрабіць адпаведныя вывады.

**Я. Вайтовіч.**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

# ПЕРАБОЯЎ З ВАДОЙ ЦЯПЕР НЕ БУДЗЕ?

**Праблема водазабеспячэння існавала ў Обалі параўнальна даўно. Але толькі с кастрычніка мінулага года пачаліся ўсе мантажныя работы па замене зношанага абсталявання.**

Па праблеме з пітной вадой у Обалі напісана нямала газетных артыкулаў карэспандэнтаў і скаргаў грамадзян. Гадамі абяцалі дапамагчы начальнікі і чыноўнікі ўсіх узроўняў улады. Як бы там ні было, але рамонтныя работы зноў зацягнулі да зімы – не хапіла 700 мільёнаў рублёў на бурэнне і ўстаноўку новай свідравіны. А рэзервовая свідравіна была не ў стане забяспечыць вадой шматпавярховыя дамы ў поўным аб'ёме. Глыбінная помпа зношвалася з-за пастаянных перагрузак. Ад недахопу вады пакутвалі жыхары верхніх паверхаў – набіралі ваду па начах, бо вада з крана ледзь цякла.

І вось нарэшце прыемная навіна: напрыканцы лютага справа зрушылася з мёртвай кропкі. Паводле старшыні Обальскага сельвыканкама М. А. Будневіча, грошы раённая ўлада знайшла – будаўніцтва новай свідравіны практычна завершана. Зараз вядуцца работы па прамыўцы і ўстаноўцы фільтраў. Да канца сакавіка свідравіна будзе запушчана. Адначасова работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі правялі замену глыбіннай помпы, ліквідавалі парывы вадаправоднай сеткі. Зараз на верхніх паверхах людзі карыстаюцца вадой напоўніцу.

Хоць і называюць камунальную службу службай добрага настрою, усё ж падзякі ў іх адрас даводзіцца чуць рэдка, скаргі – куды часцей. Зразумець гэта ў пэўнай ступені можна: клопатаў шмат, усе яны спецыфічныя і працаёмкія, а ад таго, ці цёплыя батарэі, ці цячэ вада з крана і ці спраўная каналізацыя, напрамую залежыць якасць жыцця людзей. І ледзь што не так – у камунальнікаў ляцяць папрокі і абвінавачванні. А пакуль што застаецца толькі парадавацца за абальчанаў. І ўсцешыцца, што ёсць у раёне арганізацыі і кіраўнікі, якія шукаюць не прычыны і адгаворкі, каб не рабіць справу, а сродкі, каб вырашыць злабадзённую праблему людзей.

**С. Горкі.**

ЗАМЕЖНАЕ ПЫТАННЕ

## ЦІ З'ЯВІЦЦА Ў МІНСКУ
# ТУПІК ІМЯ ЧАВЕСА?

**Абвяшчэнне ў Беларусі жалобы з нагоды смерці прэзідэнта Венесуэлы — чарговая бязглуздзіца.**

Гэтая падзея сенсацыяй не стала. Пра хваробу Чавеса весь свет ведаў ужо даўно. Са снежня мінулага года прэзідэнт Венесуэлы не паказваўся на публіцы. Таму было зразумела, што неўзабаве ён сканае.

Уга Чавес быў адным з найбліжэйшых палітычных сяброў Аляксандра Лукашэнкі. Сышліся яны на глебе антыамерыканізму. Потым распачалі сумесны бізнес. Гістарычным анекдотам застануцца пастаўкі нафты з Венесуэлы ў Беларусь танкерамі цераз палову свету: сыравіна атрымлівалася надзвычай дарагой. Страты, якія ў выніку панесла наша краіна, адыгралі ролю аднаго з чыннікаў рэкорднай дэвальвацыі 2011 года.

Дарэчы, венесуэльская валюта — балівар — абвальвалася 5 разоў за апошнія 9 год.

Таксама Чавес з Лукашэнкам будавалі аграгарадкі ў Венесуэле, ладзілі сумесныя прадпрыемствы па выпуску трактароў і займаліся зусім ужо таямнічымі аперацыямі са зброяй. Хадзілі чуткі, што кіраўнік Беларусі на ўсякі выпадак рыхтуе сабе ў гэтай лацінаамерыканскай краіне "запасны аэрадром".

Таму смерць Чавеса аказалася моцным ударам для Лукашэнкі. Ён нават распаўсюдзіў зварот да грамадзян Беларусі і прадстаўнікоў сусветнай супольнасці: "Мы, не сдерживая слез, скорбим вместе с венесуэльским народом, оплакивая безвременную смерть Уго Чавеса... Под руководством Уго Чавеса, наследника и продолжателя священного дела Симона Боливара, Венесуэла сбросила ненавистное ярмо отсталости и нищеты, освободилась от политического и экономического гнёта иноземных держав. Президент Чавес сильной, твёрдой рукой уверенно вёл родную страну к свободе и счастью. Он был и, я уверен, навсегда останется для миллионов людей истинным отцом венесуэльской нации".

Ствараецца такое ўражанне, што Лукашэнка, гаворачы пра Чавеса, падсвядома мае на ўвазе і сябе: "сильной рукой вёл страну к счастью", "останется истинным отцом нации"...

Пэўна, фармальнасць

Абвешчана, што Беларусь далучылася да жалобных мерапрыемстваў. Аднак гэта выглядае глупствам, бо абсалютная большасць нашых грамадзян абыякавая да Уга Чавеса, тым больш напярэдадні 8 Сакавіка. Цяжка ўявіць, каб беларусы замест традыцыйных святкаванняў раптам абрынуліся ў сум і тугу па прычыне таго, што памёр прэзідэнт Венесуэлы.

Таму жалоба ў Беларусі застанецца фармальнасцю: прыспушчаны дзяржаўныя сцягі і перагледжана праграма тэлеканалаў. Але нават гэтым Лукашэнка чарговы раз засведчыў свае прыярытэты. Калі памёр Васіль Быкаў, жалоба наогул не абвяшчалася. Калі здарыўся тэракт у мінскім метро, яна доўжылася адзін дзень. А цяпер — ажно тры!

Да таго ж беларускія ўлады збіраюцца перайменаваць адну з цэнтральных вуліц у Мінску, надаўшы ёй імя Чавеса. Але было б куды мэтазгодней знайсці для гэтай мэты тупік, бо насамрэч краіна, якой Чавес кіраваў амаль 15 год, маючы вялізныя нафтавыя рэсурсы, з'яўляецца адной з самых бедных у рэгіёне. А злачыннасць у Венесуэле такая, што нават у сталіцы іншаземцам не раюць выходзіць на вуліцы без аховы.

Прыклад Чавеса сведчыць пра тое, што аўтарытарная ўлада не здольна вырашыць праблемы дзяржавы і грамадства. Гэта галоўны ўрок, які варта засвоіць і венесуэльцам, і беларусам.

**Валянцін СЫЧ**
**www.svabodaby.net**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

## ПАТРЭБНА "ДАРОЖНАЯ МАПА" ПАКРОКАВАГА ЗБЛІЖЭННЯ
# БЕЛАРУСІ І ЕЎРАСАЮЗУ

**Старшыня Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч 7-8 сакавіка ўзяў удзел у сустрэчы лідараў і кіраўнікоў нацыянальных дэлегацый Еўрапейскай народнай партыі ў Афінах. У прыватнасці, палітык выступіў з прамовай падчас дыскусіі аб паглыбленні адносін Еўрасаюзу з іншымі краінамі на ўсходнім кірунку. Разам з Аляксандрам Мілінкевічам ад Украіны выступаў Віталь Клічко, лідар партыі "УДАР".**

"Нягледзячы на тое што для ЕС цяпер галоўная праблема - эканамічная сітуацыя ў Грэцыі, Іспаніі, Італіі, на гэтай сустрэчы ўсё роўна арганізуецца адмысловае абмеркаванне ўсходняй палітыкі: як умацаваць незалежнасць постсавецкіх рэспублік і спрыяць рэформам. Гэта добры знак для нас", - так Мілінкевіч пракаментаваў дыскусію.

У сваёй прамове падчас яе лідар Руху "За Свабоду" зазначыў, што ў выніку эканамічных праблем, у тым ліку праз пагаршэнне пазіцый на расійскім рынку, улады Беларусі вымушаны аднаўляць стасункі з Еўрапейскім Саюзам, бо для Беларусі важна павелічэнне экспарту ў краіны ЕС і пошук мадэрнізацыйных тэхналогій.

Пры гэтым палітык заявіў, што ў беларускім урадзе ёсць міністры, якія разумеюць неабходнасць эканамічнай лібералізацыі і прыватызацыі: "Аднак Аляксандр Лукашэнка стрымлівае структурныя рэформы. Спробы ж мадэрнізацыі пры захаванні жорскага камандна-адміністрацыйнага кантролю наўрад ці прывядуць да плённых вынікаў".

"Нягледзячы на тое, што цяперашнія ўлады Беларусі паказалі сябе непаслядоўным і складаным партнёрам і што патэнцыял дыялогу паміж ЕС і Беларуссю вельмі абмежаваны, тым не менш ён можа прывесці да змяншэння рэпрэсій, павелічэння праеўрапейскіх настрояў у беларускім грамадстве, пашырэння вакна магчымасцяў для грамадзянскай супольнасці, а таксама лібералізацыі эканамічнага жыцця. Любы пазітыўны крок у бок Захаду лепш, чым крокі, што вядуць да ўзмацнення залежнасці ад Расіі і страты суверэнітэту", - сказаў Аляксандр Мілінкевіч у Афінах.

Слушным лідару Руху "За Свабоду" ўяўляецца "ажыццяўленне дыялогу праз "дарожную мапу" пакрокавага збліжэння, дзе галоўная мэта – заваёвы розумаў і сэрцаў беларусаў". Напрыклад, праз спрашчэнне візавага рэжыму з ЕС па прыкладзе Польшчы і Літвы: "Апошнімі гадамі, нягледзячы на самаізаляцыю рэжыму, колькасць паездак беларусаў у краіны ЕС вырасла ў некалькі разоў. Гэта прынесла эканамічныя выгады нашым суседзям і не прывяло да ўсплёску нелегальнай міграцыі".

Разам з тым асаблівa Мілінкевіч падкрэсліў, што "бясспрэчнай перадумовай для дыялогу застаецца вызваленне ўсіх палітычных зняволеных".

**Прэс-служба "Рух "За Свабоду!"**

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# НА МАДЭРНІЗАЦЫЮ «РАСКРУЦЯЦЬ» ПРЫВАТНІКАЎ

**Мадэрнізацыя прадпрыемстваў, абвешчаная прыярытэтнай задачай, можа цяжкім грузам легчы на прыватны бізнэс. Такую заклапочанасць выказваюць эксперты, аналізуючы апошнія заявы кіраўніка дзяржавы.**

Эксперты падкрэсліваюць: кампанія мадэрнізацыі бывае паспяховай толькі тады, калі прадпрыемствы займаюцца ёю добраахвотна, не баючыся страціць укладзены ў прадпрыемства капітал.

На сустрэчы 26 лютага з сябрамі новага Савета па развіццю прадпрымальніцтва пры прэзідэнце, Аляксандр Лукашэнка заявіў: мадэрнізацыя эканомікі з'яўляецца задачай не толькі дзяржаўнага сектара. У яе рашэнне неабходна ўключыць ўвесь айчынны бізнес і максімальную колькасць замежных інвестараў.

Кіраўнік дзяржавы таксама чакае ад прадпрымальнікаў большай актыўнасці ў дабрачыннай дзейнасці. «Ніхто не кажа, што ў вас трэба забраць апошняе. Але калі бачыце, што можна дапамагчы дзіцячаму дому, спорту, аховы здароўя, адукацыі, што стварае базу для жыцця чалавека, так давайце дапаможам разам », - заклікаў Лукашэнка.

Пры гэтым, лічыць Лукашэнка, яго нельга папракнуць у тым, што ён гвалтам прымушае прадпрымальнікаў дапамагаць дзяржаве. «Можаце - дапаможыце, не можаце - Бог з вамі. Адпаведнае будзе стаўленне з боку дзяржавы і мяне да вас », - папярэдзіў ён.

**Раней навязвалі стратныя калгасы, цяпер - фабрыкі і заводы**

Эканамісту і прадпрымальніку Льву Марголіну сітуацыя нагадвае падзеі не гэтак аддаленыя, калі за прадпрыемствамі, у тым ліку прыватнымі, замацоўваліся стратныя калгасы.

«Тады прадпрымальнікаў змушалі падымаць сельскую гаспадарку, цяпер хочуць навязаць мадэрнізацыю. Прычына зразумелая: у дзяржавы папросту няма сродкаў, неабходных для правядзення маштабнай мадэрнізацыі прамысловасці», - адзначыў Марголін у каментары для БелаПАН.

Аднак эксперт не думае, што прыватны бізнэс будзе рады перспектыве быць уцягнутым у гэты працэс.

«Вядома, у нас у краіне ёсць розныя бізнесмены. Ёсць так званы прыдворны бізнэс, які, думаю, стане актыўным удзельнікам мадэрнізацыі і нават будзе задаволены. Яму аддадуць нейкія прадпрыемствы, ён іх прывядзе ў парадак і будзе карыстацца вынікамі », - мяркуе Марголін.

Што ж тычыцца большасці прыватных бізнэсоўцаў, то ім дзяржава наўрад ці прапануе нейкія прывабныя ўмовы.

«Хутчэй за ўсё, гэта будзе рабіцца па «добраахвотна-абавязковаму» прынцыпу. Цяпер мясцовыя ўлады, па сутнасці, вымагаюць ў прыватнага бізнесу сродкі на рамонт дарог, школ, дзіцячых садоў. Падобна на тое, менавіта так будзе вырашацца і пытанне мадэрнізацыі ", - прагназуе эканаміст.

**Льготнага продажу прадпрыемстваў не будзе. Нават стратных**

Зацікавіць бізнесменаў можна было б удзелам у прыватызацыі.

Магчыма, на гэта і разлічваў Міністэрства эканомікі, якое падрыхтавала пералік з 800 прадпрыемстваў, прапанаваных для продажу замежным і айчынным інвестарам.

Гэтыя малапрыбытковыя альбо стратныя прадпрыемствы з невялікім лікам работнікаў аналітыкі рэкамендавалі прадаць прадпрымальнікам па чыста сімвалічнай цане.

Аднак Лукашэнка ўжо выказаўся аб гэтай ініцыятыве ў негатыўным ключы. «Зацыкліліся на прыватызацыі і разумееце прамыя замежныя інвестыцыі выключна як продаж дзяржаўнай уласнасці. Вось зноў у інтэрнэце абмяркоўваюць нейкія новыя прыватызацыйныя спісы », - заявіў ён на пасяджэнні Савета міністраў.

Ніякай «кампанейшчыны з продажам не будзе», - папярэдзіў кіраўнік дзяржавы. «Прынцып вядомы: хочаш купіць - плаці поўную цану і яшчэ вазьмі абавязацельствы ўкласці грошы ў вытворчасць, захаваць працоўныя месцы, забяспечыць людзям дастойную заработную плату і рост паступленняў падаткаў у бюджэт», - заявіў Лукашэнка.

А трыма днямі раней, на сустрэчы з бізнесменамі, ён катэгарычна запатрабаваў спыніць "балбатаць аб прыватызацыі».

«Гэта становіцца для нас шкодным, і мяне ўжо пачынае насцярожваць. Як быццам у Мінэканоміцы, ва ўрадзе няма пра што гаварыць, як толькі аб прыватызацыі », - абурыўся Лукашэнка.

Пры гэтым ён удакладніў: «прыватызацыі - быць», але «цэны будуць вельмі высокія, рынкавыя».

**Эксперты: шырокая прыватызацыя ўлады не выгадная**

На думку эканаміста, «Ліберальнага клуба" Антона Балточка, ніякай масавай прыватызацыі ў Беларусі быць не можа. «Лукашэнка не дапусціць. Уласнасць - гэта залог яго ўлады, таму ён ніколі ня пойдзе на змену ўласніка », - пераканаы эксперт. Па прагнозах Балточка, да канца гэтага года магчыма толькі чакаць прадажу якога-небудзь прадпрыемства з ліку фамільнага срэбра.

Леў Марголін, у сваю чаргу, падкрэслівае: важна, як будзе праводзіцца гэты продаж.

«Можна зрабіць так, як калісьці рабілі ў Нямеччыне: бясперспектыўныя прадпрыемствы прадавалі па чыста ўмоўнай цане. А можна прадаваць, як у Беларусі - на аўкцыёнах па рэштказым або ацэначным кошце. Пры гэтым чыноўнікі яшчэ будуць навязваць бізнэсоўцу свае правілы гульні: будаўніцтва спартыўных збудаванняў і іншых сацаб'ектаў. У такім выпадку я моцна сумняюся, што 800 прадпрыемстваў знойдуць сваіх новых уласнікаў », - кажа Марголін.

**Ірына Леўшына**
**БЕЛАПАН**

ВОДГУК ТРАГЕДЫІ

# «У ЭТОЙ ТРАГЕДИИ ЕСТЬ ЕЩЕ ОДИН АСПЕКТ...»

**У трагедии с погибшим прямо возле школы под колесами авто Владиком Грудьевым случилось продолжение. Родственники претендуют на крупную моральную компенсацию и по закону имеют на это полное право.**

Но если говорить не только о законе, то в этой истории еще сказано не обо всем.

Юрий Зиссер правильно сформулировал, что изначально это трагическое происшествие было воспринято с точки зрения "презумпции виновности богатых". Хотя понятно, что в той ситуации мог оказаться абсолютно любой водитель и абсолютно любой ребенок. Потому что нельзя экономить на ограде школ, на освещении территорий, где в вечернее время много детей; нельзя устраивать проезды прямо по школьному двору или спокойно взирать на такие "запрещенные проезды", которым нет альтернативы. Теперь даже ГАИшники намекают, что приговор водителю мог бы быть иным, вот только виноват адвокат...

Но не говорят о другом.

Мне приходилось сталкиваться с ситуациями, когда люди настолько хотели наказания за смерть в ДТП своих близких, что становились просто одержимы этой идеей. Помню, родственника одной нашей сотрудницы мы вместе с его адвокатом просто уговаривали согласиться на денежную компенсацию, потому что смерти его жены водитель очевидно не хотел, не мог ее предвидеть и предотвратить. Но человек твердо стоял на своем: "Не возьму ни копейки, буду добиваться тюрьмы". (Кстати, в итоге от денег, которые водитель ему сам предлагал, отказался, но и тюрьмы для него не добился).

В ситуации с Владиком родственники сразу взяли деньги. Потом, когда водителя арестовали, мама Владика даже обещала пойти к следователю и написать ходатайство, чтобы его освободили. Но почему-то не дошла. Тем не менее, на суде водитель заявил, что чем бы ни закончился процесс, он обязуется помогать этой женщине, сколько будет жить. Это впечатлило даже судью. Она несколько раз спрашивала: "Потерпевшие, что вы скажете, от этого зависит приговор?" Потерпевшие попросили осудить по всей строгости.

Осудили. Приговор - четыре года.

Теперь мама, бабушка и дедушка погибшего Владика хотят еще 400 миллионов рублей в качестве компенсации морального ущерба. Будто в колонии несчастный водитель, тоже ставший жертвой этой трагедии, может заработать такие деньги.

Если в данном случае именно деньги помогут облегчить горе матери, у которой погиб единственный сын, давайте все вместе скинемся, потому что вопрос не в деньгах. И даже не в сроке заключения для водителя. Поскольку ни одно, ни другое принципиально ни на что не влияют.

У этой трагедии есть еще один аспект, о котором все почему-то молчат. Причем, в странах, где существует ювенальная юстиция, именно он вышел бы на первый план. Главными были бы не водитель, не марка его машины, не дорога и не то, правильно ли были расставлены дорожные знаки. Главным был бы вопрос: как получилось, что ребенок находился на улице без сопровождения взрослых. Да еще поздней осенью! Да еще в темное время суток! Там за такое наказывают именно родителей. Вплоть до лишения родительских прав.

Но у нас 7-8-9-летние дети учатся во вторую смену и никому в голову не приходит, что таких "серьезных и самостоятельных" после занятий еще должны встречать взрослые (особенно, зимой и поздней осенью, когда ребенок из школы выходит в абсолютную темноту).

У нас борются с подростками, которые после 22.00 находятся на улице, хотя летом в это время еще совсем светло, самое время погулять после уроков-секций-репетиций. Но никто не ставит вопрос о малышне, которая одна возвращается из школы и даже просто шляется по улицам. Вот и в день, когда случилась трагедия, мама третьеклассника-Владика была дома. Но почему-то не пришла встретить сына из школы. Хотя, как теперь выясняется, все знали, что ходить там очень опасно из-за машин.

Обо всем говорили, обсуждая эту трагедию. Меры приняли. Водителя наказали. Из учителей на некоторое время сделали стоп-менов. Милицию по утрам к школам пригоняют. Но вот принять за правило, что детей до 10 лет из школы обязательно должны встречать взрослые, тем более если дети учатся во вторую смену, не решился никто. Хотя именно то обстоятельство, что младшие школьники бодяются по улице одни, чаще всего и становится причиной трагедий. У нас только из детского сада ребенка надо обязательно забрать. И как-то все забирают, справляются. В школах с родителей просто берут расписку о том, что если с ребенком что-либо случится после занятий, претензий к учебному заведению никто иметь не будет. И все! Идите, дети, с миром, куда хотите! Будто расписка способна вернуть ребенка или предотвратить беду...

Забирала ли я своего сына из школы? Да, он сидел в продленке до тех пор, пока я или муж, или бабушка, или кто-нибудь из моих подруг не освобождался после работы, чтобы его забрать. Но если не все родители понимают, что в 7, 8, 9, 10 лет ребенок еще не настолько взрослый, чтобы одному находиться на улице в темное время суток, то, наверное, надо принимать закон. Чтобы не только заборы отвечали за детей, не только шлагбаумы и дорожные знаки. А все-таки родители.

**Светлана Калинкина,**
**«Народная воля»**

НАША ЎЛАДА

# АЎТАПАРК ВІЦЕБСКАГА АБЛВЫКАНКАМА ПАШЫРАЕЦЦА

**Віцебскі аблвыканкам у Год беражлівасці купляе мікрааўтобус за 70 000 даляраў і абвяшчае тэндэр на абслугоўванне амаль сарака аўтамабіляў**

Віцебскі абласны выканаўчы камітэт размясціў тэндэр на куплю мікрааўтобуса «Volkswagen Caravelle Comfortline». Кошт у тэндэры не паказаны, але, калі верыць, сайтам афіцыйных прадстаўнікоў Volkswagen аўтамабілі з падобнай камплектацыяй каштуюць ад 70 000 даляраў.



Згодна з патрабаваннямі закупкі мікрааўтобус павінен быць з доўгай базай, мець 2-літровы бензінавы рухавік TSI магутнасцю 150 кВт, 7-ступеністую аўтаматычную каробку перадач і поўны прывад. Таксама чыноўнікам аблвыканкама неабходныя таніраванае шкла і аўдыёсістэма з 8-ю дынамікамі. Новы «Volkswagen Caravelle Comfortline» колеру серабрысты перламутр будзе разлічаны на перавозку 9 пасажыраў.

Не менш цікавы другі тэндэр, аб'яўлены Віцебскім аблвыканкамам у той жа дзень - на абслугоўванне аўтапарка. Гэты дакумент дазваляе чытачам «Народных навінаў Віцебску» азнаёміцца з мадэльным радам аблвыканкамаўскага гаража.

Прыводзім мадэлі аўтамабіляў заяўленыя на абслугоўванне ў 2013 годзе: старшынёўская «AUDI A8 W12» (мадэль 2010 года), «Toyota Land-Cruiser 100» 2006 года выпуску (на ёй таксама калісьці перасоўваўся старшыня), «Toyota Avensis» 2007 і 2008 гадоў выпуску, «Volkswagen Touareg» 2003 і 2008 гадоў выпуску, «Volkswagen Passat B5» 2003 і 2004 гадоў, «Volkswagen Passat B6» 2006, 2007 і 2008 гадоў, «Volkswagen Sharan» 2007 года, «Volkswagen Shuttl» 2004 года, « Volkswagen Caravelle »2010 і 2013 гадоў выпуску,« Skoda Superb Ambition »2010 года,« Skoda Superb Comfort »2004 года,« Skoda Oktavia »2006 года,« Volvo S80 »2007 года,« Volvo 940 »1996 года,« KIA Sportage » 2006 года, «KIA Magentis» 2006 года, «Mazda 6» 2002 года, «Ford Transit» 1990 і 1996 гадоў выпуску, «ГАЗ-3102» 2004 і 2005 гадоў, «ГАЗ-31.105» 2004, 2005 і 2007 гадоў, « ГАЗ-32.213 »2002 года.

Некаторыя аўтамабілі з гэтага спісу прадстаўлены ў некалькіх экземплярах, напрыклад, «Toyota Land-Cruiser 100» і «Skoda Superb Ambition» у тэндэры паказаны па тры адзінкі.

**Сяржук Серабро**
**"Народныя навіны Віцебска"**

ТАК ЖЫЦЬ!

# ДОМ ДЛЯ СТАРШЫНІ ЗАМЕСТ МУЗЕЯ

**Тэрыторыя рэзідэнцыі ў так званым "ціхім цэнтры" Віцебска вельмі вялікая: пад знос ужо пайшлі парнікі ветакадэміі. На чарзе - гістарычны будынак канца 19-га - пачатку 20-га стагоддзя, з якога летам выселілі Музей прыватных калекцый.**

У Віцебску ў канцы 1-й вуліцы імя Даватара хуткімі тэмпамі ўзводзіцца новы будынак. Пляцоўка абнесена плотам, але звыклага ў такіх выпадках «Пашпарта аб'екта будоўлі» на ім няма. Зрэшты, усе навакольныя жыхары ведаюць: тут будуюць рэзыдэнцыю для старшыні аблвыканкаму, паведамляе радыё "Свабода".

Тэрыторыя рэзыдэнцыі ў так званым «ціхім цэнтры» Віцебску будзе даволі вялікая. Таму пад знос ужо пайшлі парнікі — маёмасьць вэтэрынарнай акадэміі. На чарзе — гістарычны будынак канца 19-га — пачатку 20-га стагодзьдзя, зь якога ўлетку выселілі Музэй прыватных калекцый.

Віцебскі Музэй прыватных калекцый быў адзіны ў Беларусі. А сёньня да гэтага будынка не падысьці: за стагадовым плотам з чырвонай цэглы будуецца двухпавярховы дом. Былы музэй з усіх бакоў завалены будматэрыяламі, і рабочыя-будаўнікі апавядаюць цікаўным пра пэрспэктывы ягонага зносу.

Самыя цікаўныя — гэта студэнты вэтэрынарнай акадэміі. Яе інтэрнаты зусім побач, і ўсіх цікавіць, што робіцца за плотам, кажа студэнтка Ларыса: «Мы туды хадзілі гуляць, хацелі пафатаграфавацца, а там — будоўля. Няма ніякай шыльды, што гэта будуюць. І дзядзька з сабакам гэтую будоўлю ахоўвае. Прыйшлі ў інтэрнат, распавядаем… А ўсе кажуць: „Чаго вы там поўзаеце? Гэта ж дом губэрнатару будуюць!" Мы зьдзівіліся: якому губэрнатару? Аказваецца, нашаму Косінцу. Нам стала цікава, мы пайшлі да будаўнікоў, пахіхікалі зь імі, яны і апавялі. Маўляў, сапраўды дом для губэрнатара. Пытаемся: „Чаму такі маленькі?" Яны кажуць: „Гэта толькі два паверхі над зямлёй, а ўнізе яшчэ адзін, там басэйн будзе"… Ну, мы ўжо ня сталі пытацца, ці пусьцяць нас туды купацца. Напэўна ж, не…»

Удакладніць нешта пра пэрспэктывы будаўніцтва — немагчыма. Абавязковы для кожнага будаўнічага аб'екта «пашпарт» — шыльда, дзе пазначаюць назву, плян і будучы зьнешні выгляд будынка — адсутнічае...

Старшыня аблвыканкаму Аляксандар Косінец пакуль што жыве ў звычайным дзевяціпавярховіку. Адно, што там незвычайнага — у пад'езьдзе дзяжурыць міліцыя.

Што да Музэю прыватных калекцый, то сьпярша ў Віцебску меркавалі, што новая губэрнатарская рэзыдэнцыя будзе менавіта ў ім. Дарэчы, у гэтым будынку некалі жыў кіраўнік пазямельна-сялянскага банку, а пасьля Вялікай Айчыннай вайны — першыя сакратары абкаму КПБ.

Пра верагодны працяг савецкай завядзёнкі мясцовыя жыхары загаварылі, калі мінулым летам адбылося тэрміновае высяленьне Музэю прыватных калекцый. Старшыня абласной арганізацыі ТБМ Ёсіф Навумчык адным зь першых паспрабаваў высьветліць прычыны: «Я пытаўся ў супрацоўнікаў, ці ня здарылася ў іх чаго. Казалі, што — нічога не цячэ, не развальваецца, і раптам — «аварыйны стан». Я потым і зь міністрам культуры размаўляў праз тэлефон. Латушка тады сказаў: «Мы, вядома, за Музэй прыватных калекцый. Але гэта ня наша маёмасьць, а абласная. І мне сказалі, што будынак у аварыйным стане».

Музэй прыватных калекцый праіснаваў 19 гадоў. Яго адчынілі 22 ліпеня 1993 году, у першы дзень «Славянскага базару». А на другі дзень апошняга фэстывалю экспанаты тэрмінова перавозілі ў Віцебскі абласны краязнаўчы музэй, вызваляючы памяшканьне. Наконт рамонту нібыта «аварыйнага» музэйнага будынку пытаньне так і не паўстала. Затое побач узводзіцца новы гмах — рэзыдэнцыя для губэрнатара. І ўсё, што замінае — ідзе пад знос.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.03.2013 у 20.10.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.